


Мастацкі калектыў „Малое Падляшша“ з бельскай школы № 3. Аб ім чытай на стар. 7.

№ 14 (1182) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 6.IV.1980 г.

Г. К. Андэрсен

# МАЛЮТАЧКА

(Пачатак у папярэднім нумары)

Раптам побач праляцеў майскі жук. Ён убачыў Малютачку, схапіў яе і панёс на дрэва, а зялёны ліст гарлачыка паплыў далей, а з ім і матылёк, ён жа ж быў прывязаны і не змог вызваліцца.

Бедная Малютачка вельмі спалохалася, калі жук схапіў яе і паляцеў з ёй на дрэва. Але майскаму жуку што? Ён усеўся высока на дрэве, накарміў Малютачку салодкім сокам з кветак і сказаў ёй, што яна яму вельмі падабаецца, хоць яна зусім не падобна на майскага жука.

Потым да іх прыйшлі ў госці іншыя майскія жукі, што жылі на тым самым дрэве. Яны разглядвалі Малютачку з галавы да ног.

— У яе толькі дзве ножкі! — казалі яны.

— У яе нават мацак няма! — казалі іншыя.

— Якая яна тоненькая! Яна зусім як чалавек! — казалі трэція.

— Яна вельмі непрыгожая! — вырашылі нарэшце ўсе жукі.

Тут майскаму жуку, што прынёс Малютачку, паказалася таксама, што яна вельмі непрыгожая, і ён не захацеў больш трымаць яе ў сябе — няхай ідзе куды хоча. Ён зляцеў з ёю ўніз і пасадзіў яе на рамонак.

Малютачка сядзела на кветцы і плакала: было крыўдна, што яна такая непрыгожая. Нават майскія жукі прагналі яе.

Усё лета пражыла Малютачка адна-адзінёшанька ў лесе. Яна спляла сабе з травы калыску, і павесіла гэтую калыску пад вялікі куст лапуха, каб яе не замачыў дожджык. Яна ела салодкі мёд з кветак і піла расу, якую кожную раніцу знаходзіла на лістках.

Так прайшло лета, прайшла і восень. Набліжалася доўгая халодная зіма. Усе птушкі паляцелі, кветкі павялі, а вялікі лопух, пад якім жыла Малютачка, пажаўцеў, засох і скруціўся ў трубачку.

Малютачка дрыжэла ад холаду: сукенка яе парвалася, а яна была такая маленькая, далікатная — як ёй не мёрзнуць! Пайшоў снег, і кожная сняжынка была для Малютачкі тым, чым для нас цэлая лапата снегу. Мы ж вялікія, а яна ўсяго толькі з цаль ростам. Яна была закруцілася ў лісток, але ён зусім не грэў, і Малютачка дрыжала, як асенні ліст.

Тады Малютачка вырашыла пайсці з лесу і пашукаць сабе прытулку на зіму.

За лесам, дзе жыла Малютачка, было вялікае поле. Хлеб з поля ўжо даўно сабралі, і толькі кароткія сухія сцяблінкі тырчэлі з мёрзлай зямлі.

У полі было яшчэ халадней, чым у лесе, і малая зусім замерзла. І вось Малютачка дайшла да норкі мышкі-палёўкі. Уваход у норку быў прыкрыты сухімі сцяблінкамі і былінкамі. Палявая мышка жыла ў цяпле і дабрабыце: кухня і кладоўка ў яе былі біткам набіты хлебнымі зярнятамі. Малютачка стала ля парога, як жабрачка, і папрасіла падаць ёй кавалачак ячменнага зернетка — яна два дні нічога не ела.

— Ах ты бедненькая, — сказала мыш-палёўка (яна была добрая бабулька). — Хадзі сюды, пагрэйся

ды паясі са мной!

І Малютачка спусцілася ў норку, пагрэлася і пад'ела. Бабульцы дзяўчынка вельмі спадабалася, і яна сказала:

— Заставайся ў мяне на зіму. Я буду карміць цябе, а ты прыбірай маю хатку ды расказвай мне казкі — я вельмі люблю казкі.

І Малютачка пачала рабіць усё, што загадвала ёй старая мыш. Ёй жылося выдатна ў цёплай мышынай норцы.

— Хутка ў нас будуць госці, — сказала аднойчы палявая мыш. — Раз у тыдзень прыходзіць наведаць мяне мой сусед. Ён вельмі багаты і жыве куды лепш за мяне. У яго вялікі дом пад зямлёй, і ён носіць цудоўнае чорнае аксамітнае



футра. Выходзь, дзяўчынка, за яго замуж! Ужо з ім ты не прападзеш! Адна толькі бяда: ён зусім сляпы і не ўбачыць цябе. Затое ты будзеш расказваць яму самыя лепшыя казкі, якія толькі ведаеш.

Але Малютачцы зусім не хацелася выходзіць замуж за суседа — гэта ж быў крот.

Хутка сапраўды прыйшоў крот у госці да мышы. Ён быў такі важны, вучоны і багаты! Футра на ім было аксамітнае і вельмі прыгожае.

Дом у яго быў у дваццаць разоў большы, чым хатка палявой мышы. Там было шмат вялікіх пакояў і доўгіх калідораў, але сонца ніколі туды не заглядвала.

Малютачцы загадалі спяваць для важнага госця, і яна заспявала дзве песенькі, ды так хораша, што крот адразу яе палюбіў. Але ён не сказаў ні слова — ён быў такі важны і салідны пан.

А потым крот прарыў пад зямлёй доўгі падземны ход ад свайго дома да мышынай норкі і запрасіў старую мыш і Малютачку прагуляцца па гэтым падземным ходзе.

Крот узяў у рот гнілушку — у цемры яна свяціла як свечка — і пайшоў наперад, асветліваючы доўгі і шырокі калідор. На паўдарозе крот спыніўся і сказаў:

— Тут ляжыць нейкая птушка. Але вы яе не бойцеся — яна мёртвая.

І крот пратыкнуў сваім шырокім носам дзірку ў столі — дзённае святло пранікнула ў падземны ход, і Малютачка ўбачыла мёртвую ластаўку! Гэта была сапраўдная птушка, з пер'ем і дзюбай; яна, мабыць, памерла нядаўна, на пачатку зімы, і ўпала ў норку крата.

Крылцы мёртвай птушачкі былі прыціснуты да цела, ножкі і галава схаваны ў пёркі. Бедная птушачка, мабыць, памерла ад холаду. Малютачцы зрабілася шкада яе, яна так любіць птушак — яны ж ёй цэлае лета спявалі. Але крот штурхнуў ластаўку сваімі кароткімі лапкамі і сказаў:

— Не хацеў бы нарадзіцца такой птушкай. Яна толькі і ўмее, што чырыкаць, а прыдзе зіма — памірай з голаду і холаду.

— Так, так, — сказала мыш. — Песнямі сыты не будзеш, чырыканнем зімой не нагрэешся.

**Працяг у наступным нумары**

**Янка Маўр**




**(Урывак з апавядання „Запіска“)**

За сталом сядзеў партызан. Ён часта пазіраў у акно, дзе ля варот стаяла на варце яго пятнаццацігадовая дачка Каця. Аўтамат ляжаў на лаве, пад рукой. Жонка рыхтавала яму на дарогу клунак.

Перад партызанам стаяў трынаццацігадовы хлопчык, сур'ёзны, пахмурны. Апусціўшы вочы, ён круціў у руках нейкую палачку і глухім голасам казаў:

— Чаму нельга? Чаму? Я таксама магу быць карысным: і каня дагледзець, і на варце пастаяць, і ў разведку пайсці.

— Алёшачка! — сказала маці. — Цябе ж могуць забіць!

Хлопчык сур'ёзна паглядзеў на маці.

— Забіць? — сказаў ён. — Татку таксама могуць забіць. А гэта яшчэ горш, бо ён трымае ўсю сям'ю. І дзядзьку Андрэя могуць забіць, і Васіля Пракопчыка могуць забіць. І чырвонаармейцаў, што ваююць на фронце, могуць забіць.

— Куды табе раўняцца з дарослымі? — паківала галавою маці.

— Я не збіраюся раўняцца, — адказаў сын. — Я хачу дапамагчы, чым магу.

* ⁂ *

У хуткім часе Алёшу было дадзена заданне: пайсці ў адну вёску за кіламетраў трыццаць ад лагера пад выглядам пастушка. Бацька з карткай у руках пачаў яму тлумачыць:

— Гэта тая самая вёска, Дубкі, дзе мы з табой раз былі ў дзядзькі Андрэя. Памятаеш?

— Трохі памятаю.

— Да яго ты цяпер і пойдзеш. Калі будуць пытацца, скажаш, што ты пляменнік Андрэя Прахорчыка, што твая маці, а яго сястра Палага, паслала цябе да дзядзькі папрасіць солі. На кожны выпадак памятай, што жонка дзядзькі Андрэя завецца Кацярына, што ў іх пятнаццацігадовая дачка Вера і шасцігадовы сын Юзік. У вёсцы звычайна дзядзьку завуць Андрэй Янукоў.

— Я не баюся, — пакрыўджана адказаў Алёша.

— Добра, ведаю, — пяшчотна сказаў бацька, паклаўшы руку яму на плячо. Мы цябе з лесу вывезем, тады ісці табе прыдзецца кіламетраў семнаццаць. Спяшацца не трэба, ідзі павольна, адпачывай, колькі хочаш. Спачатку давядзецца сачыць, каб хто не звярнуў увагі, што ты ідзеш з лесу. Разумееш?

— Разумею.

— Дзядзька табе раскажа, што ведае аб немцах, і ты прыйдзеш назад. Запісваць нічога нельга — трэба вывучаць усё напамяць. Вось табе план дарогі; яго таксама трэба вывучыць, а потым знішчыць. Сёння добра паспі, а раніцою — у дарогу.

Да выхаду з лесу Алёшу везлі чатыры ўзброеныя партызаны, у тым ліку і бацька. Развіталіся і доўга глядзелі, як патупаў па дарозе пастушок з торбай і пугай...

Быў гарачы чэрвеньскі дзень. Не раз у такі дзень Алёша бесклапотна бегаў па лясных і палявых сцежках, па лугах і пералесках. Але цяпер ён быў шчаслівейшы, чым тады. Тады ён проста цешыўся жыццём, як тая птушка, а ця-

пер — усе яго пачуцці, усе думкі мелі глыбокі сэнс, хвалявалі і запаўнялі душу. Ён не проста пазіраў навокал, а з усяго, што бачыў, рабіў вывады, нібы рашаў цікавую задачу. Ідучы па сцежцы збоку дарогі, ён улічыў усё, каб хто не ўбачыў яго перш, чым ён убачыць таго.

Але на дарозе людзей бадай-што зусім не было. Толькі сям-там на палях бялелі хусткі жанчын. Некалькі жыхароў поркалася каля руінаў. Праз гэтую вёску Алёша прайшоў спакойна: не знойдзецца тут чалавека, які што-небудзь скажа на карысць немцам. Кіла-



метраў праз восем Алёша падышоў да другой вёскі. Мінуўшы некалькі хат ён убачыў, што насустрач ідзе... паліцай!.. Алёша адчуў, як усярэдзіне ў яго пахаладзела і замерла, нібы сэрца перастала стукаць і кроў спынілася. Але затое галава пачала працаваць чыста, шпарка, спакойна, нібы самастойны механізм. Алёша раптам гікнуў, свіснуў і, падскокваючы ды ляскаючы пугай, панёсся насустрач паліцаю. Той не звярнуў на яго ніякай увагі. Ці мала вясковых хлапчукоў носіцца па вуліцы?..

За вёскай Алёша адчуў, што ён страшэнна змарыўся. Ён збочыў, з асалодай апусціўся на траву і выняў з сваёй торбы хлеб і сала. Першая сустрэча з ворагам яго супакоіла, надала ўпэўненасці; ён убачыў, што нічога страшнага няма, калі не палохацца, а шукаць выхаду. Па плану, які Алёша вывучыў, выходзіла, што тут недалёка павінна быць рэчка, а там да Дубкоў застанецца кіламетраў семвосем. Да вечара яшчэ далёка, паспець можна. Толькі надта ногі баляць. Гадзіны дзве адпачываў Алёша, нават заснуў.

Разбудзіў яго голас:

— Гэй, уставай! Торбу ўкрадуць!

Алёша ўсхапіўся, глядзіць — перад ім стаіць хлопчык гадоў дванаццаці.

— Ты каго тут пасеш? — спытаўся ён са смехам.

— Я так, адпачываю, — адказаў Алёша.

— А куды ідзеш?

— У Дубкі.

— А пропуск маеш?

— Які пропуск? — спалохаўся Алёша.

— Там на мосце сёння пытаюцца прапускоў.

Высветлілася, што на мосце стаіць патруль і правярае паперы — хто такі, адкуль?

— І ў дзяцей пытаецца? — спытаў Алёша.

— Не ведаю, — адказаў хлопчык і пайшоў далей.

Рачулка была маленькая. Уброд перайсці яе было зусім лёгка. На мосце стаялі тры паліцаі. Алёша нейкі час сачыў за імі, ходзячы каля ракі. Першая думка была — адысці далей і пераправіцца ў

(Працяг на стар. 8)




## ВЕЛІКОДНАЕ ЯЕЧКА

Вялікдзень — свята вясны. Зімой уся прырода замірае, упадае ў глыбокую дрымоту, а вясною вяртаецца да жыцця. Для людзей гэтае веснавое ажыўленне доўгі час было таямніцай. Гэткай жа самай таямніцай для людзей было паяўленне жыцця з яйка. І ў адным, і ў другім выпадку лічылася, што існуе нейкая чарадзейская жыццедайная сіла, якая ажыўляе мёртвыя прадметы. Сіла гэтая знаходзіцца ў яйку і ўсю моц сваю праяўляе вясною.

Ад зарання чалавечага грамадства яйка адыгрывала асаблівую ролю ў розных абрадах. Яйкі закопвалі або клалі на магілы памершых родзічаў, каб жыццё не пакінула іх. Яйкі закопвалі пад чэран вогнішча ў хаце або клалі пад падмурак новага дома, верачы, што яны будуць ахоўваць будынак ад варожых, злых сіл і спрыяць развіццю жыцця.

Звараныя крута яйкі елі як ачышчаючую і аздараўляючую ежу. Яйкі здобілі малюнкамі і клалі на самае ганаровае месца ў хаце.

З часам усё гэта пераўтваралася ў вельмі прыемны і мілы звычай малявацьі дарыць іншым велікодныя крашанкі-пісанкі. Яйкі малявалі на адзін колер або ва ўзоркі. Спачатку галоўным матывам маляванак было „дрэва жыцця“. Яго малявалі ці выскробвалі на памаляваным яйку ў форме счэпленай клямры. Пазней прадстаўлялі на яйку сонца, месяц, зоркі — крыніцы жыцця, святла, здароўя. Вядома, не магло абыходзіцца без веснавых матываў — травінак, лісточкаў, кветак, птушак. Такім чынам з часам узоры на пісанках зрабіліся вельмі багатымі, рознакаляровымі, займальнымі.

Потым пісанкі пачалі рабіць таксама з гліны, з дрэва, з камення і іншых матэрыялаў. Яны былі больш трывалыя, даўгавечныя.

Нарыхтоўка пісанак з часам стала своеасаблівым народным мастацтвам. У нас на Беласточчыне шырока вядомы сваім майстэрствам маляваць пісанкі народныя мастачкі з ваколіц Мельніка, Бельска, Новага Двара, Гайнаўкі. Штогод некаторыя музеі і Дамы культуры праводзяць конкурсы на найпрыгажэйшыя пісанкі і маляванкі.

Вельмі прыемна атрымаць ад каго-небудзь каляровую пісанку. Але яшчэ прыямней уласнаручна самому пафарбаваць у цыбульніку, кары, маладым жыце ці памаляваць яечкі старадаўнімі ўзорамі, як гэта робяць нашыя мамы, таты, бабулі ці суседзі, і падарыць іх іншым. Даючы каляровае велікоднае яечка іншым, мы жадаем ім здароўя, доўгага жыцця і шчасця — самага дарагога для кожнага чалавека.

*(іс)*



# „Малое Падляшша"

У студзені, два гады таму назад, у Пачатковую школу № 3 у Бельску Падляшскім зайшоў вядомы мясцовы музык Мікалай Турковіч. Прапанова была простая — арганізаваць вучнёўскі танцавальна-харавы калектыў. Супольна з дырэктарам школы Васілём Ляшчынскім ды яго наменнікам Мікалаем Якубюком абмеркавалі, што і як ды неадкладна прыняліся за працу. Мікалай Турковіч, праверыўшы слух і галасы вучняў пятых класаў, выбраў 24-асабовую групу і распачаў падрыхтоўку. Працавалі па чатыры гадзіны ў тыдні. І праз чатыры месяцы калектыў, які прыгожа назвалі „Малое Падляшша", даў першае выступленне. Было гэта ў сябе, у школе. Потым у горадзе. Урачыстасці, гадавіны добра памятаюць галасы і танцы „Малога Падляшша". За два гады калектыў выступіў больш пяцідзесяці разоў — і ў Бельску, і ў Беластоку.

Выступаюць у народнай вопратцы. Апрача песень і танцаў калектыў займаецца і інсцэнізацыяй. Гэта не чыста драматычная дзейнасць, але ў праграме выкарыстоўваюцца, звязаныя тэматычна, розныя прылады. А праграма — гэта народныя і гарцэрскія песні.

Калектыў разрастаецца. Сёння налічвае ён больш сарака асоб. Але гэта не канец. Мікалай Турковіч думае зрабіць сапраўдны калектыў — вялікі і на высокім узроўні. Вядома, трэба ўлічваць і тое, што вучні ж канчаюць школу і адыходзяць. Трэба рыхтаваць змену. І ў сувязі з гэтым рыхтуюць ужо вучняў чацвертых класаў.

— Ужо і новыя касцюмы прыдаліся б, — пагаворваюць у калектыве.

І якраз у час нашай размовы пазваніў тэлефон.

— Званілі з цэха рознага рамяства, — радасна заявіў дырэктар, адкладаючы трубку. — Даюць 80 тысяч злотых. Ёсць, значыць, новыя касцюмы.

**М. Шаховіч**




## А Ў ЛЕСЕ, ЛЕСЕ

**Вяснянка**

**Апрацоўка А. Нікольскага**

А у лесе, лесе ды на верасе
Вясна красна на ўвесь свет!
Маладзы там хлопчык ды валы пасе,
Вясна красна на ўвесь свет!
А яму дзяўчынка ды абед нясе.
Вясна красна на ўвесь свет!
— Сядзьма разам, хлопча, паабедайма!
Вясна красна на ўвесь свет!
А я па абедзе скажу табе дзіва.
Вясна красна на ўвесь свет!
Скажу табе дзіва найдзіўнейшае:
Вясна красна на ўвесь свет!

*(Працяг са стар. 5)*

# Алёша

якім-небудзь ціхім месцы. Але немцы, мусіць, і самі гэта ведаюць і, пэўна, сочаць. Калі зловяць, тады будзе ясна, хто ён такі.

Алёша зрабіў іначай. Ён падышоў да ракі крокаў за сто ад моста, дзе берагі былі парослыя кустамі. Стаў так, каб паліцаі маглі яго бачыць, прылажыў далоні да рота і закрычаў на ўсё горла:

— Юрка-а!.. Дзе мая каро-о-ва?

Вартавыя абыякава зірнулі на яго. Алёша зноў крыкнуў:

— Юрка-а! Гані сюды-ы!..

А потым узяў ды і пайшоў цераз рэчку. Вартавыя не звярнулі на яго ніякай увагі — яны сачылі за чужымі людзьмі, за партызанскімі разведчыкамі, а не за тутэйшымі пастухамі...

Далей Алёша ішоў спакайней.

Праз некаторы час ён заўважыў далёка на гарызонце пыл. Можна было здагадацца, што гэта ідуць машыны. Разгледзець іх нельга. Алёша пабег да бліжэйшага ўзгорка і адтуль убачыў, што машын было каля дзесяці. Алёша пайшоў, адзначыўшы ў сваёй галаве ўсе знакі нямецкай формы, а таксама і машыны.

Да Дубкоў ён падышоў пад вечар. Тут ён успомніў, дзе была хата дзядзькі Андрэя, і прайшоў да яе праз агарод.

...Вярнуўся ён у лагер на трэці дзень з такім багатым і важным матэрыялам, які і ацаніць было цяжка.

## АДГАДАНКА





Знайдзіце на малюнку 20 адрозненняў.

**Адрас рэдакцыі „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**